# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Субота, 29 кастрычніка 1994 года | №116 (10816) | Цана 30 руб.


ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

■ Да 50-годдзя Вялікай Перамогі

## І грымне музыкай парад

У памятнага гістарычнага Парада Перамогі, які адбыўся паўстагоддзя таму назад у Маскве, цяпер, праз 50 гадоў, будуць пераемнікі ва ўсіх дзяржавах СНД, у тым ліку і ў нашай Беларусі, народ якой цаной жыцця больш двух мільёнаў сваіх грамадзян унёс важкі ўклад у разгром гітлераўскага фашызму. Рашэнне аб правядзенні гэтага прыгожага і ўрачыстага воінскага рытуалу ў сталіцы рэспублікі і абласных цэнтрах абнародаваў міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Анатоль Кастэнка на праведзеных ім расшыраных занятках з кіраўніцтвам МА, камандзірамі корпусаў, дывізій нацыянальнай арміі, начальнікамі ўпраўленняў, службаў і аддзелаў Галоўнага штаба Узброеных Сіл і ваенна-вучэбных устаноў.

Адказным за падрыхтоўку Парада Перамогі назначаны намеснік міністра абароны, начальнік Мінскага гарнізона генерал-маёр Алег Яцкевіч, які па просьбе карэспандэнта Белінфарма расказаў аб тым, якой плануецца цырымонія святочнага рытуалу.

Такі ранні пачатак падрыхтоўкі да гэтага незвычайнага і таксама гістарычнага парада дыктуецца тым, што арганізатарам на ўсіх узроўнях трэба вырашыць нямала праблем. Не сакрэт, што ва ўмовах эканамічнага крызісу такое дарагое мерапрыемства правесці зусім не проста, нават у чыста матэрыяльным плане. Як сказаў генерал Яцкевіч, плануецца задзейнічаць для ўрачыстага маршу звыш паўтары тысячы ваеннаслужачых усіх асноўных відаў войск Узброеных Сіл Беларусі і Пагранічных войск. Яны пойдуць, як звычайна, у пешым страі, баявая тэхніка не прыцягваецца. У парадзе прымуць удзел суравоўцы і курсанты беларускіх ваенных вучылішчаў, мотастралкі і танкісты, дэсантнікі і лётчыкі. І ўсіх іх трэба апрануць у новую форму беларускай арміі.

Парад адбудзецца ў любым выпадку і будзе праведзены на вышэйшым узроўні, перакананы генерал Алег Яцкевіч. Разам з воінамі ў дзень святкавання ўрачыстымі калонамі па вуліцах і праспектах Мінска, іншых гарадоў і вёсак пройдуць ветэраны-пераможцы, будуць арганізаваны масавыя народныя гулянні, канцэрты, сустрэчы старых салдат з моладдзю ля салдацкіх палявых кухань. Так што абавязкова грымне музыкай парад.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Стаўбцоўскія навіны

### Зямля не пустуе

Быў час, калі Стаўбцоўская школа-інтэрнат (як і іншыя ў вобласці) "чэрпала" грашовыя сродкі выключна з дзяржаўнай кішэні. Цяпер ёсць магчымасць самім умацоўваць вытворчую базу, нарыхтоўваць прадукцыю для свайго калектыўнага стала.

19 гектараў ворнай зямлі замацаваны за інтэрнатам.Многа гэта ці мала? Паводле слоў агранома З.Сысоевай (ёсць тут і такая пасада), для сваіх авечак нарыхтавана пяць тон сена. Збожжавы палетак даў 30 цэнтнераў з гектара (не кожны калгас можа пахваліцца такім ураджаем).

Значную плошчу займаў агарод. Сваімі сіламі нарыхтавалі варэнне з чырвоных парэчак, сліў, яблыкаў. Засолены агуркі, памідоры. Добра ўрадзілі капуста, морква, сталовыя буракі.

Як бачым, пры жаданні можна многае зрабіць, каб зімою сталоўка ў школе-інтэрнаце была нябедная.

### Бруіць крынічка

Тутэйшыя мясціны, здаецца, дыхаюць паэзіяй. Цудоўны бацька-Нёман, бясконцыя краявіды Налібоцкай пушчы, шчырыя, працавітыя людзі. А галоўнае — быццам і сёння жыве тут Якуб Колас, вялікі майстра мастацкага слова, знакаміты зямляк, народны пясняр.

Мабыць, таму творчы струмень "Коласаўскай крынічкі" — літаратурнага аб'яднання пры раённай газеце "Прамень" — насычаны вершамі, апавяданнямі, замалёўкамі пра родны край, хараство прыроды, людзей працы. Спрабуюць "моц" свайго пяра людзі сталага ўзросту, моладзь. Апошнім часам актыўнасць праяўляюць старшакласніца Шашкоўскай школы Ганна Дзям'янка, вучаніца Старасвержанскай школы Таццяна Амельчыц, вучань Дзераўнянскай школы Андрэй Грышан і іншыя.

Члены літаратурнага аб'яднання не варацца ў сваім саку. Яны рэгулярна атрымліваюць карысныя кансультацыі ў сваіх землякоў — пісьменнікаў Генрыха Далідовіча, Міколы Маляўкі і іншых літаратараў, супрацоўнікаў рэдакцыі райгазеты.

### Наведайце магазін "Верас"

Мабыць, не ад добрага жыцця ў свой час рамонтна-будаўнічае ўпраўленне адкрыла свой магазін. Былі сумненні: ці патрэбны ён, ці не "сядзем у лужыну"?

Узялі дзяржаўны крэдыт пад 210 працэнтаў гадавых, закупілі прамысловыя тавары (у асноўным адзенне). "Выкінулі на прылавак" тое-сёе і са сваёй вытворчай базы — вагонку, плінтусы, аконныя і дзвярныя блокі. Пакупнікі адразу атакавалі "Верас", бо тут усё можна набыць танней, чым у райспажыўсаюзе.

Цяпер не шкадуюць у РБУ, што заняліся гандлем. Заўсёды ёсць свежая капейка. Крэдыт вярнулі. Пачалі нават браць заяўкі ў насельніцтва на халадзільныя камеры, мэблю, іншыя дарагія тавары. Практыкуюць выязны гандаль у бліжэйшыя вёскі.

### Навасельцы з Белавежжа

Белавежскія зубры... Сёння іх ужо можна сустрэць і ў Барысаўскім лясгасе, і ў Прыпяцкім запаведніку. А ранняй вясной сёлета 15 волатаў завезены ў Налібоцкую пушчу. Спачатку яны жылі ў вальерах, а летам былі выпушчаны на волю. На першым часе з іх не спускаюць вачэй леснікі, падкормліваюць.

Аналіз "зубровай абстаноўкі" сведчыць, што жывёліны адчуваюць сябе добра. Тутэйшыя лясы нагадваюць ім, мусіць, Белавежскую пушчу. У зімовы час, праўда, плануецца кожнага навасёла трымаць пад наглядам: "арганізаваць" лясную сталоўку і, вядома ж, берагчы ад браканьераў.

Пройдзе час, і, як лічыць паляўніцтвазнаўца В.Шакун, зубры надзейна абжывуцца ў тутэйшых лясах. На карысць прыродзе, на карысць людзям.

### Кліча "Высокі бераг"

Турбаза "Высокі бераг" існуе ўжо не першы год. На ўскрайку лесу, побач — рэчка Нёман. Той, хто набывае пуцёўку (у яе кошт уваходзяць харчаванне, жыллё, культурна-аздараўленчая праграма), вядома ж, атрымае надоўга зарад бадзёрасці і аптымізму. Людзі тут хоць крыху забываюць аб эканамічных цяжкасцях. Асабліва вабяць лодачныя паходы. З кастрамі, з рыбацкай юшкай.

Многія прыязджаюць сюды сем'ямі. Для малышоў прадугледжаны цікавыя мерапрыемствы (язда ў кібітцы на Буланчыку будзе помніцца доўга-доўга).

Адпачываюць на турбазе і турысты з блізкага і далёкага замежжа. Гэта дае магчымасць "разжыцца на валюту" і набываць пэўны інвентар.

### Бывай, кінатэатр

Жыхары мікрараёна Новы Свержань (яго аддзяляе ад райцэнтра чыгунка ды мост цераз рэчку Нёман) апошнім часам рэдка наведвалі свой кінатэатр. Білеты дарагія.Не ўсе фільмы даспадобы. Вядома ж, будынак не мог доўга пуставаць.

Малое прадпрыемства "Гапол" узяло памяшканне ў арэнду. Тут плануецца адкрыць у адной з залаў гандлёвы цэнтр па продажу прадуктаў і касметыкі. У другой размесціцца кафэ, якое будзе працаваць да дзвюх гадзін ночы.

У Новым Свержані знаходзяцца дрэваапрацоўчы камбінат, райаграпрамтэхніка. Жыве тут некалькі тысяч чалавек. Думаецца, паслугі фірмы "Гапол" будуць далёка не танныя. За прагляд "відзікаў", за шклянку кавы хлопцы ў жоўтых портках "здзяруць" з наведвальнікаў на поўную катушку. Інакш бы яны не сталі і агарод гарадзіць.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## НОВЫ СЕЗОН КАМЕРНЫХ ЗАЛАЎ

Восеньскія вечары доўгія. У людзей больш вольнага часу. Культработнікі горада Любань робяць усё, каб жыхары выкарыстоўвалі яго для свайго духоўнага ўзбагачэння. Актывізавала сваю дзейнасць Камерная зала. Тут урачыста адзначылі новы сезон. Перад аматарамі музыкі выступіў ужо вядомы любанцам піяніст Валерый Баравікоў. Трынаццаць гадоў гэты чалавек жыве ў нашай рэспубліцы, а да гэтага вучыўся ў Астраханскай кансерваторыі. У дуэце з ім выступала старэйшая выкладчыца Беларускай акадэміі музыкі Наталля Сцяпанава. Рэпертуар артысты падрыхтавалі цікавы. Удзельнікам вечара спадабаліся ў іх выкананні творы рускіх кампазітараў М.Глінкі «Баркарола» і «Алегра», С.Рахманінава «Вальс» і «Раманс». Прагучала на вечары і музыка нямецкага кампазітара І.Брамса. Гэта былі варыяцыі на тэму рускіх рамансаў.

Пачаўся новы сезон камерных залаў і ў іншых раёнах.

*(Наш кар.).*

## ТЫСЯЧА ЗА КЛУБЕНЬ

Так, за адну бульбіну сапраўды патрэбна выкласці тысячу рублёў. І гэта не значыць, што цэны на наш «другі хлеб» раптам сіганулі ўверх. Проста на тарфяніках калгаса «Перамога» Старадарожскага раёна сёлета добра ўрадзіла бульба. Дробных клубняў амаль няма. Найбольш буйныя старшыня калгаса А.М.Нікановіч захапіў з сабою, узважыў. Адзін важыць 1.375, другі — 1.240 грамаў. А кілаграм бульбы ў магазінах каштуе нярэдка 600 — 700 рублёў. Вось і лічыце...

Лепшыя клубні ўпрыгожваюць кабінет кіраўніка гаспадаркі. Але галоўнае — добры ўраджай дазволіў калгасу прадаць 400 тон клубняў. Што прыкметна папоўніла грамадскую касу.

*/Наш кар./.*

■ Восень Міншчыны-94



Учора на пляцоўках перад павільёнам, што па вуліцы Я.Купалы ў Мінску, закончыла сваю работу выстаўка-кірмаш "Восень Міншчыны-94", у арганізацыі і правядзенні якой прымалі ўдзел фактычна ўсе службы аблсельгасхарча і ўсе раёны вобласці. Мы паведамлялі ўжо, што калгасы, саўгасы, фермеры, кааператары, прадпрыемствы, якія перапрацоўваюць разнастайную сельскагаспадарчую сыравіну, прадставілі на выстаўку (яна працавала ў павільёне) тысячы экспанатаў — ад каўбас, вяндліны, рулетаў, садавіны і агароднiны да скураной і шарсцяной вопраткі, абутку, разнастайных вырабаў з драўніны і металу.

Выстаўка-кірмаш складалася з дзвюх частак. У павільёне з экспанатамі мог азнаёміцца кожны. Тут заключаліся кантракты, дагаворы на аптовую пастаўку прадукцыі. А вось на пляцоўках перад павільёнам з ранку да вечара вялі гандаль практычна той жа прадукцыяй спажывецкія таварыствы раёнаў, мясакамбінаты. Калгасы, саўгасы, фермеры гандлявалі садавінай, агароднінай, бульбай.

Перад закрыццём выстаўкі-кірмашу адбылася прэс-канферэнцыя, якую правёў старшыня аблсельгасхарча А.М.Жук. Ён паведаміў, што сёлетняя выстаўка-кірмаш прайшла больш арганізавана і больш вынікова, чым летась. Дастаткова сказаць, што, напрыклад, гаспадаркі і прадпрыемствы Слуцкага раёна заключылі 33 гандлёвыя здзелкі, Мінскага — 47. Дваццаць кантрактаў у "кішэні" вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання і г.д. Словам, у тым, што датычыць збыту гаспадаркамі сваёй прадукцыі і забеспячэння іх прамысловымі таварамі, выстаўка мае неацэннае значэнне, падкрэсліў А.М.Жук.

У сувязі з гэтым кіраўніцтву аблсельгасхарча выстаўка "падказала" і наступную думку: наспела патрэба стварыць у Мінску пастаянна дзеючую сельскагаспадарчую біржу. Кірмаш — разавае мерапрыемства, а пошук гандлёвых сувязей і заключэнне здзелак — работа паўсядзённая.

Учора ў другой палавіне дня выстаўку-кірмаш наведаў міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання В.С.Ляонаў.

*Іван АБАБУРКА.*
*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Сведчыць статыстыка

## МАЛА СУЦЯШАЛЬНАГА

Сёлета павінна быць здадзена ў эксплуатацыю за кошт усіх крыніц фінансавання /уключаючы і індывідуальныя дамы/ 10.727 кватэр. Аднак за тры кварталы ўвялі іх толькі 2.730 — чацвёртую частку запланаванага.

Без надзеі глядзяць патэнцыяльныя жыхары на 60-кватэрны дом у Заслаўі. МПМК-204 аб"яднання "Мінсксельбуд" узялася за яго ў верасні 1992 года. На цяперашні час узведзена толькі каробка будынка.

Яшчэ летась у снежні павінны былі здаць чатыры аднакватэрныя дамы ў калгасе "Маяк" Дзяржынскага раёна. Адсутнасць грошай затармазіла будаўніцтва. Магчыма, да новага года і завершацца ўсе работы.

А вось чым растлумачыць зрыў уводу школы на 204 вучнёўскія месцы ў калгасе "Камінтэрн" Дзяржынскага раёна? Яна ж будуецца за кошт сродкаў, выдзеленых на ліквідацыю вынікаў чарнобыльскай аварыі. Выходзіць, іх пусцілі на іншыя мэты, калі тэхнічная гатоўнасць аб"екта на 1 кастрычніка склала 31 працэнт, а запазычанасць МПМК-190 аб"яднання "Мінсксельбуд" за выкананыя аб"ёмы работ — 19,3 мільёна рублёў.

З-за адсутнасці фінансавання спынена будаўніцтва бальніцы на 150 ложкаў у гарадскім пасёлку Старобін Салігорскага раёна, не прыняў дзяцей сад на 95 месц у калгасе імя К.Маркса Валожынскага раёна і г.д. Хіба толькі можна парадавацца таму, што запрацавалі агульнаадукацыйныя школы ў Заслаўі і Свіслачы, адпаведна на 1.940 і 689 вучнёўскіх месц, дзіцячы сад на 140 месц у калгасе "Вішнёўка" Мінскага раёна, амбулаторыя на 40 наведванняў у калгасе "Іскра" — Лагойскага. Але гэта не вельмі суцяшае.

*Фаіна ЭЛЕНТУХ,*
*супрацоўнік аблстатупраўлення.*

## АБСКАРДЖАННЮ НЕ ПАДЛЯГАЕ

З 1 снежня 1994 года страчваюць сілу абзац трэці часткі першай артыкула 5 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях і прынятыя на яго падставе рашэнні мясцовых Саветаў дэпутатаў аб узмацненні адміністрацыйнай адказнасці.

Такое рашэнне прыняў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь, які прызнаў, што гэтая норма не адпавядае Канстытуцыі. Абласныя, а таксама Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў пазбаўляюцца права павялічваць памеры штрафаў за правапарушэнні ў галіне аховы здароўя насельніцтва, навакольнага прыроднага асяроддзя, выкарыстання цеплавой і электрычнай энергіі, за парушэнні ветэрынарна-санітарных і каранцінных правіл, за правапарушэнні на транспарце, у галіне дарожнай гаспадаркі і сувязі, жыллёва-камунальнай гаспадаркі і добраўпарадкавання, гандлю, аховы грамадскага парадку.

Справа ў тым, што згодна з Канстытуцыяй, адзіным заканадаўчым органам рэспублікі з'яўляецца Вярхоўны Савет. Пяты артыкул Кодэкса, які прадастаўляе мясцовым Саветам паўнамоцтвы па ўзмацненню адміністрацыйнай адказнасці, па сутнасці супярэчыць канстытуцыйнаму палажэнню. Гэта прывяло да таго, што мясцовыя Саветы дэпутатаў пераўтварыліся па сутнасці ў заканадаўчыя органы, а ў некаторых выпадках яны нават прымалі рашэнні аб унясенні змяненняў у Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Канстытуцыйны суд прыйшоў да высновы, што абзац трэці часткі першай артыкула 5 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях не адпавядае артыкулам 1 і 79 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго, указаная норма не спрые рэалізацыі замацаваных у артыкулах 7, 22, 23, 34 Канстытуцыі правоў грамадзян. Рашэнні мясцовых Саветаў дэпутатаў, што прадугледжваюць адміністрацыйную адказнасць, па заключэнню Канстытуцыйнага суда, павінны датычаць выключных акалічнасцей з улікам мясцовых умоў і прымацца ў адпаведнасці з патрабаваннямі артыкула 23 Канстытуцыі.

*БЕЛІНФАРМ.*








Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету 63923 (індэкс выдання)

"Мінская праўда" Колькасць камплектаў

на 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | літар

на газету 63923 (індэкс выдання)

"МІНСКАЯ ПРАЎДА"

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | | |

на 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

■ ФОТАРЭПАРТАЖ







**30 кастрычніка — Дзень работнікаў аўтамабільнага транспарту**

# СУЛАДНЫ РЫТМ

Без статыстыкі не абысціся, калі гаворка ідзе пра справы таго або іншага працоўнага калектыву. Вось і ў расказе пра аўтобусны парк № 5 г.Мінска хочацца назваць некалькі лічбаў. Сёлета транспартам гэтай арганізацыі перавезена звыш 90 мільёнаў пасажыраў. Выкарыстоўваліся ў асноўным для такіх мэт "Ікарусы-260" і "Ікарусы-280". А ўсяго тут 309 машын. Аўтапарк, у калектыве якога 1.248 чалавек, абслугоўвае 21 гарадскі маршрут.

— Мы адзінае ў сталіцы аўтапрадпрыемства, — гаворыць дырэктар Сяргей Сяргеевіч Савіцкі, — якое захавала ў параўнанні з папярэднім годам план выхаду аўтобусаў на лінію. І ў гэтым заслуга ўсіх — вадзіцеляў, рамонтнікаў, інжынерна-тэхнічнага персаналу.

...Расце наш горад. З"яўляюцца новыя мікраараёны, а з імі — і новыя аўтобусныя маршруты. Іх "абжываюць" вадзіцелі з аўтапарка № 5, хаця чатыры гады не атрымліваюць новай тэхнікі. І ўсё ж яны строга захоўваюць графікі выхаду на лінію, забяспечваюць рытмічнае транспартнае абслугоўванне людзей.

*Мікалай КУЗЬМЕНКА.*

НА ЗДЫМКАХ: дырэктар аўтапарка **С.С.Савіцкі**; дыспетчар **А.М.Ярковіч** выдае пуцёўку вадзіцелю **С.В.Глымбоцкаму**; перадавыя вадзіцелі аўтапарка **У.П.Марозаў, В.І.Хацкевіч, В.У.Рудніцкі, В.П.Сукач, С.У.Папоў, В.У.Шастак, В.А.Шынкевіч, В.І.Карпук, І.І.Дзятко**; аўтаэлектрык **М.Л.Шнітман** і брыгадзір ТА-2 **В.М.Лазовік.**

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Гандаль

# Узрадуйся, пакупнік

## Шмат тавараў пойдзе да спажыўцоў без пасрэдніцкіх супернакрутак

**Рэакцыя атрымалася "крутая". Чаго, дарэчы, і трэба было чакаць. Указ Аляксандра Лукашэнкі "Аб мерах па насычэнню рынку рэспублікі таварамі і спыненню неабгрунтаванага росту цэн на іх" выклікаў у так званых пасрэдніцкіх фірм стан, блізкі да шокавага /маўляў, ледзь ці не глотку сціснуў!/. А вытворцаў, што называецца, прымусіў пачухаць патыліцу: цяпер усю прадукцыю "за тры моры" вывезці не ўдасца. І дазволіў з палёгкай уздыхнуць спажыўцам: мо заўтра цэны будуць "лётаць" не на такой шалёнай вышыні?..**

— Віктар Фёдаравіч, некаторыя палітыкі схільныя расцэньваць вядомы прэзідэнцкі ўказ як наступленне на камерсантаў-пасрэднікаў. А як лічыце асабіста вы? — звяртаюся я да начальніка ўпраўлення гандлю аблвыканкома В.Ф.Гукайлы.

— Наколькі я разумею, Лукашэнка ставіць пытанне інакш: узнікла вострая патрэба пазбавіцца ад лішніх звенняў у ланцужку «вытворца—гандаль—спажывец». Сёння большасць прадстаўнікоў камерцыйных структур імкнуцца займацца пасрэдніцкімі функцыямі. Безумоўна, гэта вельмі зручна і зусім не складана ў параўнанні з вытворчай дзейнасцю. Пакуль, дарэчы, існуе цяперашняя кан"юнктура: выгадна купіў тавар — яшчэ больш выгадна прадаў. У прэзідэнта, па ўсім відаць, свая мэта: як пераканаць, зарыентаваць ці, калі хочаце, прымусіць гэтых людзей заняцца вытворчасцю. Гэта — першае.

Па-другое, прынятае рашэнне накіравана на тое, каб выпушчанымі ў рэспубліцы прадуктамі ці рэчамі быў забяспечаны перш-наперш наш жа, айчынны пакупнік. Такая задача і памянёнага ўказа, і загада Міністэрства гандлю. Гэтыя распараджэнні накіраваны на наладжванне, калі можна так сказаць, свайго роду дысцыпліны ў захаванні дзяржаўных рэсурсаў. Цяпер прадпрыемства павінна разлічыцца спачатку са спажыўцамі ў нашай краіне. А раней яно мела магчымасць амаль усё аддаваць за мяжу.

Але трэба памятаць: рэспубліка не валодае ўсімі, скажам, відамі сыравіны для вытворчасці тых ці іншых тавараў. Нам не хапае энергетычных рэсурсаў. Таму пры заключэнні дагавораў паміж гандлем і прамысловымі прадпрыемствамі гэтыя фактары не могуць не ўлічвацца. І пэўная частка выпускаемай вытворцамі прадукцыі застаецца ў іх распараджэнні. Якраз для названых мэт.

Іншымі словамі, мы не заўсёды можам абыходзіцца без пасрэднікаў, асабліва калі яны прапануюць тавар, якога ў рэспубліцы няма. Таму ўзаемавыгадны бартэрны абмен сёння мае права на існаванне. А ў асобных выпадках без яго немагчыма справіцца з той ці іншай праблемай. Усё гэта было ўлічана пры распрацоўцы вядомага ўказа А.Лукашэнкі.

Дык якія ж меры так напалохалі пасрэдніцкія фірмы і абнадзеілі нас, пакупнікоў? Загад Мінгандлю ад 29 верасня патрабуе, кіруючыся прэзідэнцкімі распараджэннямі, «забяспечыць зніжэнне гандлёвых надбавак да адпускных цэн на тавары народнага спажывання за кошт пастаўкі гэтых тавараў розьнічным гандлёвым прадпрыемствам не больш як праз адно аптовае звяно». Да таго ж, прадугледжаны асобы парадак водпуску тавараў суб"ектам гаспадарання недзяржаўных форм уласнасці, не маючым розьнічных гандлёвых прадпрыемстваў. Цяпер існуе больш чатырох дзесяткаў відаў тавараў, якія можна «здаваць у рукі» пасрэдніцкім фірмам толькі па ўзгадненню з Міністэрствам гандлю і яго ўпраўленнямі.

Што ж цяпер «пойдзе да пакупніка» без шматлікіх пасрэдніцкіх накрутак? На дзяржпрадпрыемствах рэспублікі ўстаноўлены асобыя правілы збыту халадзільнікаў і маразільнікаў, пральных машын, тэлевізараў, радыёпрыёмнікаў, магнітафонаў, веласіпедаў, фотаапаратуры. У гэты ж спіс трапілі асвятляльныя электралямпы, фарфора-фаянсавы і шкляны посуд, залатыя і сярэбраныя ювелірныя вырабы, дываны, шпалеры, скургалантарэя. Пад апекай Мінгандлю апынуліся абутак, мыла і мыйныя сродкі, трыкатажныя і швейныя вырабы і многія іншыя нехарчовыя тавары штодзённага попыту.

Найбольш шматлікая група тавараў, узятых пад «дзяржаўнае крыло», — харчовыя. Гэта мука, крупы, цукар, соль, масла, маргарын, маянэз, яйкі, сухое малочнае дзіцячае харчаванне, цвёрдыя сыры, малочныя і мясныя кансервы, свініна і каўбаса. Пасрэднікам «перакрыты» прамы доступ да гарэлкі, віна, каньяку і шампанскага айчыннай вытворчасці, да запалак і сшыткаў.

Ды ўзрадуйся, пакупнік... Мо так і здарыцца? Асабліва калі за ўсімі памянёнымі новаўвядзеннямі будуць назіраць пільныя «дзяржаўныя вочы».

*Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*

■ Дзякуй!

# ПОЎНЫЯ ЧАМАДАНЫ ЦАЦАК І ... ДОБРЫХ УСПАМІНАЎ

Наша газета ўжо расказвала аб тым, што ў аздараўленчым лагеры Барысаўскага райкома прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу "Спадарожнік" сёлета адпачывалі дзеці не толькі рабочых і калгаснікаў з тутэйшых гаспадарак, прадпрыемстваў, а і іх равеснікі з Гомеля, выхаванцы Бярэзінскай і Халопеніцкай школ-інтэрнатаў. А нядаўна на імя старшыні райкома прафсаюза Мікалая Аляксеевіча Хадаронка прыйшлі пісьмы-падзякі. Вось радкі аднаго з іх:

"56 нашых хлопчыкаў і дзяўчынак адпачывалі ў аздараўленчым лагеры "Спадарожнік". Шчырыя, добрыя, пяшчотныя людзі на працягу дзвюх змен клапаціліся аб нашых дзецях. Конкурсы мастацкай самадзейнасці, кветак, малюнкаў, спартыўныя гульні і спаборніцтвы, "Беларускі кірмаш" — цяжка нават пералічыць усе тыя цікавыя забавы, што былі арганізаваны ў лагеры. З вялікім задавальненнем малодшыя хлопчыкі і дзяўчынкі ўдзельнічалі ва ўсіх добрых пачынаннях старэйшых сяброў: спявалі, танцавалі, ставілі спектаклі. Таму што ўсе і ўсё было заўважана, ацэнена, узнагароджана. Самыя актыўныя прывезлі з лагера поўныя чамаданы цацак, шмат прызоў і грамат. І ўсе дзеці — добрыя ўспаміны пра людзей, якія іх выхоўвалі, абаранялі, шкадавалі, дапамагалі ім. Як родныя бацькі клапаціліся аб дзецях Ж.Я.Луферчык, М.К.Быкава, М.П.Лукашэвіч і А.П.Савіч. Шчыра дзякуем начальніку лагера А.В.Суглабу, старшай выхавальніцы Р.П.Шастаковіч, старшыні райкома прафсаюза М.А.Хадаронку за арганізацыю адпачынку дзяцей-сірот".

Падпісалі гэты ліст настаўніца Бярэзінскай школы-інтэрната Т.М.Касцевіч, выхавальніца В.Ф.Пілюціна. Такая ж падзяка прыйшла і з Крупскага раёна — Халопеніцкай спецыялізаванай школы-інтэрната. Яе напісалі супрацоўнікі гэтай установы Г.В.Скалубовіч, В.С.Нядбайла і А.М. Парцянка. Не толькі ад свайго імя, а і ад імя дзяцей.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*
*Барысаўскі раён.*

**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА**

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

■ Вяртаючыся да надрукаванага

# ЦІ РАСТАЎ УЧАРАШНІ СНЕГ?

**Мы так і не адказалі на гэтае пытанне ў папярэднім матэрыяле (гл."Мінскую праўду" за 4 кастрычніка). Напомню, аб чым у ім ішла гаворка.**

**Кантрольна-рэвізійнае ўпраўленне Міністэрства фінансаў па Слуцку выявіла, што мясцовы завод "Модуль" завысіў тарыфы на цеплаэнергію, якую адпускаў пабочным кліентам, і перабраў з іх у снежні мінулага года звыш 8 мільёнаў рублёў (у старых цэнах). Планавая ж праверка аддзела цэн аблвыканкома налічыла ўжо 39 мільёнаў. Прычым тройчы яго работнікам, кожны раз службовым рангам вышэй, давялося выязджаць на прадпрыемства, каб даказаць правільнасць вызначанай сумы.**

У рэшце рэшт былі пералічаны ў бюджэт 39 мільёнаў рублёў, ды яшчэ штраф у такім жа памеры, які залічылі ў лік пагашэння доўгу гарадскога аб"яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі заводу за атрыманую ад яго цеплаэнергію. Дырэктар П.А.Кунцэвіч і эканаміст А.А.Філіпавец былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці і іх аштрафавалі адпаведна на трынаццаць мінімальных зарплат (на той час — 780 тысяч рублёў) і тры (180 тысяч).

З такім рашэннем Кунцэвіч быў катэгарычна не згодзен. Сутнасць яго скаргаў наступная: яны паспяшаліся пералічыць у бюджэт тыя ж 39 мільёнаў рублёў і з іх такую ж суму незаконна спісалі ў лік пагашэння доўгу жыллёва-камунальнай гаспадаркай горада. Грошы трэба вярнуць прадпрыемству і адклікаць з суда рашэнне калегіі аддзела цэн аблвыканкома аб спагнанні з дырэктара і эканаміста штрафу. Калегія ж сваё рашэнне не адмяніла, а матэрыялы праверак перадала ў Дэпартамент цэн. І як там адрэагавалі?

Вось да якога вываду прыйшлі члены камісіі, якія рыхтавалі пытанне на калегію, на чале з начальнікам аддзела па кантролю за захаваннем цэн і тарыфаў А.Ф.Курыльчыкам: звярнуць увагу аддзела цэн аблвыканкома на неправамернасць прымянення эканамічных санкцый да завода... і адміністрацыйных спагнанняў да дырэктара і эканаміста;

даручыць аддзелу цэн аблвыканкома ў 10-дзённы тэрмін адмяніць эканамічныя санкцыі ў адносінах да завода;

у сувязі з неабгрунтаваным вынясеннем пастановы па справе аб адміністрацыйным праваапарушэнні, дапушчаным дырэктарам слуцкага завода "Модуль", задаволіць скаргу службовых асоб... і адмяніць пастановы аддзела цэн аблвыканкома ад 14 чэрвеня №19 і №20 (імі накладзены штрафы на Кунцэвіча і Філіпавец). Гэта ж запісана і ў рашэнні калегіі.

— Выходзіць, што ўпустую распальваўся гэты сыр-бор? — спытаў у Курыльчыка.

— Усё павінна рабіцца на законнай аснове, калі мы хочам пабудаваць прававую дзяржаву.

Маўляў, дырэктара дарэмна пакаралі, ён тут ні пры чым. Калі б ён забараніў правяраючым наведаць завод, тады іншая справа. Не ён павінен распрацоўваць нормы — для гэтага ёсць спецыяльныя работнікі. Няхай яны і адказваюць. Да таго ж заводскія нормы расходу на вытворчасць цеплаэнергіі зацверджаны ў вярхах сёлета ў лютым, і ніякіх разыходжанняў з імі на прадпрыемстве не назіраецца.

— Аляксандр Фёдаравіч, вы ж і самі добра ведаеце, што любая пастанова, нарматыўны акт і закон не маюць зваротнай сілы. Яны пачынаюць дзейнічаць з моманту іх прыняцця, — заўважаю свайму субяседніку.

— На заводзе ёсць энергетык, які і вызначае, колькі і чаго патрэбна на вытворчасць адной гігакалорыі цяпла. Да таго ж, завод не аднесены да ліку манапалістаў, таму ён мае права сам вызначаць цану на сваю прадукцыю. Пры заключэнні дагавора на яе рэалізацыю, у тым ліку і на цяпло, яна ўзгадняецца з пакупніком. Усё па закону. Які ж тут крымінал?

Сапраўды, згодзішся на любыя ўмовы, калі толькі адна заводская кацельня абагравае цэлы мікраараён, дзіцячы сад, сярэднюю школу, прафесійна-тэхнічнае вучылішча, прыватныя дамы і г.д. Аднак нельга забываць, што цяпло — гэта такі тавар, на які трэба ўстанавіць эканамічна абгрунтаваныя цэны, а не браць іх са столі. І чаму ніхто ў Дэпартаменце цэн не звярнуў увагі на словы загадчыка сектара аддзела цэн аблвыканкома М.І.Матуса: "Прааналізаваць колькасць электраэнергіі і іншых матэрыялаў, выдаткаваных на вытворчасць адной гігакалорыі цяпла за студзень-снежань 1993 года, не змог з-за непрадастаўлення дакументаў."

Як бы там ні было, а рашэнне прынята. З дырэктара і эканаміста знімаецца штраф. Лагічна разважаючы, тады трэба адмяняць і эканамічныя санкцыі ў адрас завода як незаконныя і вярнуць яму грошы, якія ён паспяшаўся пералічыць у бюджэт, а таксама не спісваць доўг аб"яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі на 39 мільёнаў рублёў.

— Чаму вы не зрабілі гэтага, Аляксандр Фёдаравіч? — пацікавіўся ў А.Ф.Курыльчыка.

— Наша справа — што і як вырашаць. Мы ж абавязалі аддзел цэн у 10-дзённы тэрмін адмяніць іх.

— А калі ён адмовіцца выконваць ваша рашэнне і абскардзіць яго?

— Падобнага ў нашай практыцы яшчэ не было, каб наша ўказанне ігнаравалася.

Аднак аддзел цэн аблвыканкома стаіць на сваім. Не знайшоўшы падтрымкі ў родным ведамстве, начальнік аддзела М.Я.Ігнацьеў накіраваў пісьмо ў Кантрольную палату.

Слуцкі завод вымяральнай апаратуры, гаворыцца ў ім, ніякіх прыбораў не выпускаў. З мэтай атрымання даходаў яго адміністрацыя вырашыла прадаваць фірмам Германіі і Аўстрыі піламатэрыялы палепшанай апрацоўкі па недапушчальна нізкіх цэнах. Другая крыніца даходаў — цеплаэнергія, якая выпрацоўваецца кацельняй прадпрыемства, удзельная вага якой у таварнай прадукцыі перавышае 35 працэнтаў.

І далей расказваецца аб перыпетыях, звязаных з праверкай абгрунтаванасці вызначэння тарыфаў на цяпло, — аб іх вы ведаеце з газетнай публікацыі. На жаль, Дэпартамент цэн па фармальных прычынах вывеў з-пад адказнасці П.А.Кунцэвіча.

Як адрэагуе Кантрольная палата? Будзем чакаць яе рэакцыі.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

■ Актуальнае інтэрв'ю

# Ад усеагульнай — да адраснай падтрымкі

**Урад рэспублікі ўжо ў самы бліжэйшы час плануе ўвесці новую сістэму аплаты жылля і жыллёва-камунальных паслуг. Пракаменціраваць гэтае новаўвядзенне карэспандэнт Белінфарма папрасіў начальніка ўпраўлення Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі Вахтанга Валажынца.**

***— Вахтанг Вадзімавіч, чым выклікана новаўвядзенне?***

— Перш за ўсё крызіснай сітуацыяй у эканоміцы і, у прыватнасці, жыллёва-камунальнай гаспадарцы. Паколькі для нармальнага яе функцыяніравання толькі ў гэтым паўгоддзі неабходна датацыя больш чым 200 мільярдаў рублёў. Але дзяржаўны бюджэт не бязмежны. Да таго ж ён, як вядома, перажывае востры дэфіцыт. Узнікшае становішча ў рэспубліцы патрабуе перабудовы самога механізма аплаты. Таму што не толькі немагчыма, але нават няправільна і несправядліва кампенсаваць у аднолькавай меры выдаткі ўсім слаям насельніцтва па ўтрыманню жылля і камунальных паслугах. Вядома, як моцна расслаілася наша грамадства па ўзроўню даходаў. Таму настаў час аказваць дапамогу з боку дзяржавы толькі тым, хто мае ў ёй вострую патрэбу. І асноўная мэта новаўвядзення — пераход ад дацыравання дзяржаўных жыллёва-эксплуатацыйных арганізацый да адраснага субсідзіравання наймальнікаў ці ўладальнікаў жылля. У сваю чаргу гэта дасць магчымасць павысіць эфектыўнасць выкарыстання дзяржаўных сродкаў і зацікаўленасць людзей у беражлівых адносінах да ўтрымання жылля, эканоміі цеплаэнергетычных і прыродных рэсурсаў. Заўважу, што такую сістэму аплаты ўжо ўвялі, напрыклад, у Маскве.

***— Так што, відаць, усім нам прыйдзецца асвойваць такое новае паняцце, як дзяржаўная безнаяўная жыллёвая субсідыя.***

— Правільна. Гэта — адрасная фінансавая падтрымка насельніцтва за кошт дзяржаўнага бюджэту для кампенсацыі часткі затрат на ўтрыманне, аплату найму жылля і камунальных паслуг. Словам, субсідыя — гэта розніца паміж устаноўленай платай за жыллё і камунальныя паслугі па нарматывах спажывання і дапушчальнай велічынёй гэтай платы ў сумесным даходзе сям'і.

Субсідыі атрымаюць не толькі карэнныя жыхары Беларусі, але і іншаземцы, асобы без грамадзянства, якія пражываюць на тэрыторыі нашай рэспублікі ў дзяржаўным і грамадскім жыллёвым фондзе, у прыватызаваных жылых памяшканнях шматкватэрных дамоў, а таксама члены жыллёва-будаўнічых, будаўнічых кааператываў і таварыстваў індывідуальных забудоўшчыкаў.

Не прадугледжаны субсідыі толькі тым, хто мае жылыя дамы на праве ўласнасці, а таксама тым, хто здае іх па дагавору найму або з'яўляецца гаспадаром дзвюх і больш кватэр.

***— Цікава будзе ведаць памер субсідыі і ад чаго ён залежыць.***

— Перш за ўсё ён залежыць ад колькасці членаў сям'і, яе льгот, сумеснага грашовага даходу і ўстанаўліваемай урадам гранічна дапушчальнай удзельнай вагі расходаў сям'і на аплату жылля і камунальных паслуг у яе бюджэце.

***— Хто ж мае права на атрыманне адраснай фінансавай падтрымкі?***

— Гэта тыя, у каго на працягу апошніх трох месяцаў з улікам дзеючых ільгот доля расходаў на ўтрыманне, аплату найму жылля і камунальных паслуг перавысіла за месяц 15 працэнтаў ад сямейнага бюджэту. Для гэтага неабходна напісаць заяву і прыкласці дэкларацыю аб даходах сям'і па ўстаноўленай форме. Райвыканкам жа штомесяц зацвярджае агульную суму субсідый і прадстаўляе яе жыллёва-эксплуатацыйным арганізацыям па месцы пражывання заяўнікаў. А ў ЖЭСе ўжо вызначаюць памер фінансавай дапамогі і запісваюць у адзіную разліковую кніжку, дзе ўказваюць суму плацяжоў па дзеючых тарыфах, субсідыю, што прадастаўляецца сям'і, а таксама суму грошай, якую неабходна ўнесці ў аддзяленне Ашчаднага банка.

***— Атрымліваецца, што ўсім нам зноў прыйдзецца прастойваць у чэргах за даведкамі, траціць каштоўны час?***

— Зусім не. Каб скласці дэкларацыю аб даходах сям'і, дастаткова толькі ўзяць бланк устаноўленай формы ў ЖЭСе і самому яго запоўніць. Завяраць яе нідзе не трэба. Тут усё грунтуецца на даверы. Але гэта не азначае, што можна такім чынам утаіць або занізіць іх. Калі гэтыя факты ў час праверак выявяцца, то чалавек можа сам сябе пазбавіць права на адрасную падтрымку і яму прыйдзецца кампенсаваць нанесеныя дзяржаве страты. Неабходна пісьмова паведамляць жыллёва-эксплуатацыйнай службе па месцы пражывання і аб змяненні даходу сям'і на працягу месяца.

***— І калі мы адчуем плён новаўвядзення?***

— Як мяркуецца, у пачатку наступнага года. Канкрэтны тэрмін установіць урад.

*БЕЛІНФАРМ.*

